# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 12 (26)* *14—20 траўня 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*



**Зянон Пазьняк**

## Здрада — спосаб існаваньня

Камуністычная здрада на нашай зямлі выяўляе пэрманентны характар і абумоўленая тым, што камунізм ня мае ніякага дачыненьня да Беларусі й беларускага народа. Гэта чужародная зьява, прынесеная на Беларусь з Расеі ў часе 1-й сусьветнай вайны бальшавізаваным расейскім войскам. У канцы 1918 года бальшавіцкія войскі ўварваліся ў Беларускую Народную Рэспубліку, вязучы з сабой у абозе калябаранцкі ўрад Жылуновіча і іншых нацыянал-камуністаў. 1-га студзеня 1919 года аб ´явілі аб стварэньні марыянетачнай бальшавіцкай БССР, якую праз два месяцы самі ж і ліквідавалі. Потым ў 1920 годзе вымушаныя былі яе зноў аднавіць галоўным чынам па той прычыне, што беларускія камуністы-калябарацыяністы з прыдуманага «ураду» былі дрэннымі здраднікамі — трымаліся за Беларусь, за сялянаў ды культуру. Прыйшлося іх бальшавікам неўзабаве ўсіх расстраляць, рэпрэсаваць і накіраваць на той сьвет.

Наступнае пакаленьне бальшавіцкіх халуёў на Беларусі хутка ўцяміла, як трэба сябе паводзіць. Здрадніцтва было даведзенае да паталагізму — прадавалі Бацькаўшчыну, веру, сяброў, бацьку, матку, мову, культуру, гісторыю, гонар. Спаборнічалі выслужыцца ў нізасьці, поўзалі на каленях, аддана плявалі на свой род, а ў канцы ўсяроўна атрымлівалі кулю ў патыліцу, так і не зразумеўшы «за што». Нашчадкі тых халуёў кіруюць цяпер. Эстафета прадаўжаецца.

Год назад паміж шматлікімі грамадзкімі арганізацыямі Беларусі (акрамя камуністаў) і кіруючымі структурамі было падпісанае Антыкрызіснае пагадненьне аб аб ´яднаньні намаганьняў на абарону сувэрэнітэту ў выніку пагрозы незалежнасьці Беларусі. Пад пагадненьнем стаяць подпісы В. Кебіча, Э. Шыркоўскага, міністраў, дзяржаўных дзеячаў. Цяпер аказалася, што гэтыя людзі самі сталі ініцыятарамі пагрозы незалежнасьці Беларусі.

Цікава пачытаць выступы некаторых камуністаў-дэпутатаў Вярхоўнага Савета 26—27 ліпеня 1990 г., калі прымалі палажэньне аб імкненьні да нейтралітэту й бязьядзернасьці Беларусі ў Дэкларацыі аб незалежнасьці. Які напышлівы казённы стыль, якая падтрымка! Цяпер гэтак жа дэклямуюць навыварат, супраць нейтралітэту.

У сярэдзіне сьнежня 1992 года ў Вярхоўным Савеце прымалі Ваенную дактрыну Рэспублікі Беларусь. Міністар абароны і іншыя гэнэралы пафасна дэкляравалі вернасьць Дэклярацыі аб незалежнасьці й курсу на нейтралітэт. Так і запісалі, што Рэспубліка Беларусь «праводзіць самастойны курс у галіне ваеннай палітыкі, імкнецца да пераходу ў статус нейтральнай, бязьядзернай дзяржавы..., узаемадзейнічае з зацікаўленымі дзяржавамі рэгёна па стварэньні бязьядзернага пояса ад Балтыйскага да Чорнага мораў».

Прайшло тры месяцы, й міністар разам з гэнэраламі, вокам не міргнуўшы, засьпявалі ўсё наадварот. А ўявім, што ў Расеі пачаліся грамадзянскія закалоты, й банды бальшавікоў зноў напалі на Беларусь. Як павядуць сябе гэткія гэнэралы й гэткі міністар?

16 сьнежня 1992 г. Вярхоўны Савет прыняў Пастанову, дзе даручыў Саўміну «да 1-га сакавіка 1993 года: прадставіць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзеньні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусі у адпаведнасьць з Ваеннай дактрынай Рэспублікі Беларусі».

Нічога выканана не было. Замест выкананьня В. Кебіч, падыгрываючы расейскім камуністам, выступіў за ваенны саюз — калектыўную бясьпеку з Расеяй, супраць нейтралітэту Беларусі. (А значыць, супраць Канстытуцыйнага закона, Ваеннай дактрыны й нейтральнай міралюбнай палітыкі нашай дзяржавы). Хіба гэта ня здрада?

Сітуацыя ў Беларусі склалася дрэнная й парадаксальная. Ва ўладзе новай незалежнай дзяржавы засталіся старыя структуры кіраваньня, людзі, якія заўсёды былі шалёнымі ворагамі беларускай незалежнасьці, дзяржаўнасьці, мовы, культуры, беларускай нацыі. Для сьпелай нацыі й нармальнага нацыянальна сьвядомага грамадзтва такое становішча немагчымае. Альбо парламэнт і ўрад адстойвалі б дзяржаву й незалежнасьць, альбо гэты парламэнт і ўрад доўга б не праіснавалі. Толькі на Беларусі ў хворым грамадзтве магчымае існаваньне антынацыянальнага ўраду й Вярхоўнага Савету.

**(Працяг на 2-й стар.)**

**С. Астравец**

## Жалобны сход

### Кароткае апавяданьне

У прэзідыуме паважна сядзелі мажныя палкоўнікі, чыны паменш, быў адзін гэнэрал, стары, як чалавек на партрэце. Астатнія апрануты ў цывільнае. Прэзідыум традыцыйна шматлюдны: шырокі, ў некалькі састаўленых усутыч і пакрытых чырвонай тканінай сталоў, ды глыбокі — шэрагі крэслаў да самых задворкаў сцэны.

Першую гадзіну было шмат руху й шуму. Літаўры, вынас сьцяга, дроб піянерскіх барабанаў, рапарты, віншаваньні, узнагароджаньне ганаровымі граматамі, нарэшце двойчы — вершаваны «ланцужок» — дзеці з бадзёрым пафасам выгуквалі ў залу чатырохрадкоўі.

Завіхаўся фаторгаф з успышкай і старэнькім «Ніканам». Імкнуўся ўсё добрасумленна адлюстраваць.

Загэтым пачаўся традыцыйны даклад. Слухалі яго сонна. Час цягнуўся. Імітаваць увагу зрабілася зусім цяжка. Позна й задуха. Нават у прэзідыуме сталі дзенідзе падаць на грудзі галовы.

Фатограф рупліва пстрыкаў.

Мінула больш гадзіны часу. Зала мірна пасапвала ў дрымоце. Калі дакладчык дайшоў да Халхін-Голу, з-за сцэны няўзнак паказаўся чалавек у цывільным і каб не прыцягваць увагу «спуноў» сьхіліўся да вуха крайняга сядака. Той узварушыўся. Чутка папаўзла ад вуха да вуха. Дасягнула чырвоных вушэй старшыні прэзідыума. Ён спалатнеў.

Каб зала не заўважыла, са спалоханнага прэзідыума як мага неўпрыкмет перадалі на трыбуну цыдулку. Па-над расфарбаваным гэрбам вытыкалася рыльца графіну, сетчатая галоўка мікрафону, капялюшык настольнае лямпы ды плеш дакладчыка. Ён зрабіў паўзу, наліў у шклянку вады, непрыкметным рухам разгарнуў паперку. І папярхнуўся вадой.

Людзі пачалі прачынацца. Дакладчык скарагаворкай дачытваў прамову. Прэзідыум пусьцеў. Зала зашамацела. Напрыканцы сцэну займалі адно бязладна пакінутыя крэслы.

Фатограф высьлізнуў у адзежню. Пасьпеў толькі спытаць у знаёмага абахаэсэшніка, што подбегам зашпільваўся, чаго здарылася? Той адно махнуў рукой. Й не пытай.

У буфэце марнелі бутэрброды з чырвонай рыбай, шынкай, вэнджанымі кілбасамі. Іншыя прысмакі таксама нібы прасіліся да рота. А каньяк, савецкае шампанскае, піва! Фатограф папрасіў пакласьці яму ў мяшэчак розных бутэрбродаў. Схаваў у скураной наплечнай скрынцы для фотаапарата.

Вярнуўся ў спусьцелую залу. На сцэне бушаваў напоўніцу самадзейны канцэрт для работнікаў савецкай міліцыі. Для трох-чатырох глядачоў. Пазбаўленыя гіпнозу прэзідыума, прысутныя на сходзе адразу паўцякалі. Было блізка паўночы. На сцэне віравалі танцоўны пары. Усё разам дужа нагадвала баль пад час халеры.

Зрабіў яшчэ пару кадраў і пайшоў апранацца.

Тая ноч потым заўжды нязьменна ўзгадвалася яму сьнежнай, хоць снегу яшчэ не магло быць. Каля брамы ён заўважыў дзве постаці. Міліцыянт і цывільны. Запатрабавалі дакумэнты. Доўга вывучалі, кідаючы на яго падазроныя позіркі. Нарэшце прапусьцілі.

Вось навіна! Гэткага яшчэ ня было. Не пасьпеў ён так падумаць, як побач самага будынка яго рэзка запыніла іншая двойка: міліцыянт з цывільным. Паўтарыліся роспыты й спраўджаньне дакумэнтаў. Размаўлялі непрыхільна. Пайшлі зь ім да фоталябараторыі, пільна яе агледзелі, нібы нечага шукалі.

Як сыходзілі, ён ня стрываў: «Хлопцы, дык хто ж там канцы аддаў? Не таміце». Цывільны разьятрана абярнуўся: «займайцеся сваёй справай!».

Калі ён праявіў стужку, было далёка за поўнач. Здымкі вырашыў адбіць зраніцы.

На прахадной цывільны й міліцыянт зьмяніліся на новых. Ізноў праверка дакумэнтаў.

Ледзьве стрымліваючы цікаўнасьць дабраўся дахаты. З карценьнем высмыкнуў антэну і ўключыў «таратайку». Доўга чакаць не давялося. Паведамілі, што — як перадае з Масквы «Рэйтар» — паводле няспраўджаных дадзеных, памёр гэнэральны сакратар цэка капээсэс Леанід Ільіч Брэжнеў...

Паставіў на фаерку гарбатнік, выняў сьвяточныя бутэрброды.

Раніцай на тэлебачаньні паўсюдна стаяла ахова, асабліва ў студыі. Праўда, адныя міліцыянты.

Здымкі пра ўрачысты сход не спатрэбіліся. А яго самога паслалі на завод. У зале адбываўся жалобны сход. На сцэне смутны прэзідыум: начальства і прадстаўнікі працоўнага калектыву. Партрэт з чорнай машастовай істужкай. Трыбуна, на якой зьмяняліся нешматслоўныя прамоўцы.

У чырвоным лябараторным сьвятле ў мацавальніку плавалі карткі з жалобы. Пры дзённай лямпе прыгледзеўся. Пануры прэзідыум і іншая, збольшага абыякавая зала. Хтосьці ухмыляўся, іншыя драмалі, нехта калупаўся ў носе.

**6 красавіка 1991 г.**

**Шаноўныя спадарыні й спадары!**

**Газэта «ПАГОНЯ» — гэта зьвесткі з Гарадзеншчыны, Віленшчыны й Беласточчыны. Калі вас цікавіць беларускае жыцьцё ня толькі на Беларусі, але таксама ў Польшчы й Летуве, дык падпішыцеся на нашу газэту! Паўгадавы кошт — 333 рублі, індэкс — 63124. Падпіска прымаецца ў любым паштовым аддзяленьні Рэспублікі Беларусь.**





## ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Здрада — спосаб існаваньня

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)**

У травені 1992 г. неверагоднымі намаганьнямі дэмакратычных сілаў Беларусь атрымала ўнікальную магчымасьць правесьці рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбарах. Адзіны й своечасовы гістарычны шанц ня быў выкарыстаны па адной прычыне, якая мае два бакі: крымінальнасьць улады і апатыя грамадзтва да ўласнага лёсу. Усё гэта нагадвае аднаго шыбеніка з казкі Братоў Грым, які быў такі лянівы, што паленаваўся нават пад шыбеніцай абрэзаць вяроўку на шыі, каб не павіснуць...

Ня буду апісваць псіхалогію саўковага грамадзтва й тым больш кіраўніцтва, што парушае законы. Істотна іншае. Растаптаўшы ў безвыходным адчаі рэфэрэндум, закон, канстытуцыю, правы асобы й не спаткаўшы супраціўленьня ў народзе, камуністычная намэнклятура канчаткова пазбавілася страху й зразумела, што ўсё можна, усё дазволена. З гэтага часу й пачалася адкрытая палітыка здрады, накіраваная на зьнішчэньне незалежнасьці, нейтралітэту, дзяржаўнасьці, магчымасьці беларускага культурна-нацыянальнага адраджэньня. Этапы гэтай здрады — маскоўскія ваенныя пагадненьні 20 ліпеня 1992 года, эксгумацыя КПСС — КПБ, рашэньне аб далучэньні да ваеннага дагавора пра калектыўную бясьпеку. Далейшыя планы намэнклятура не хавае. Палітыка яе разьвіваецца па шляху рэгрэсу. Будуць перагледжаныя і адмененыя ўсе мінімальна-дэмакратычныя й дзяржаўна-незалежніцкія рашэньні Вярхоўнага Савета, прынятыя дзякуючы стараньням Апазіцыі БНФ. Будзе прадаўжацца стварэньне штучнай галечы на Беларусі. Вынікі яе будуць цяжкімі. Спраўджваюцца самыя дрэнныя прагнозы, што намэнклятурна-камуністычнае кіраўніцтва прагрымаецца на Беларусі да чарговых выбараў і новы парлямэнт прыйдзе на «галавешкі».

Гэта найбольш бал чa ўсьведамляць, бо за паўтары гады мафіёзнага кіраваньня Беларусь ужо страціла асноўныя свае вартасьці, магчымасьці і перавагі ў эканоміцы. Я ўжо не кажу пра рэгрэс маралі і культуры. Пацьвярджаецца агульнавядомая ісьціна: разьвіваецца і багацее ня тая краіна, дзе ёсьць золата і кілбаса, а тая, дзе ў людзей ёсьць нацыянальная годнасьць, дзе цэняць свабоду.

Зрэшты, тэарэтычна ў беларусаў ёсьць яшчэ адзін шанц — гэта распусьціць Вярхоўны Савет сілай, склікаць Устаноўчы Сойм, выбраць урад, прыняць Канстытуцыю, закон аб выбарах і правесьці свабодныя выбары. Гэтыя дзеяньні ў дадзеным становішчы былі б цалкам прававымі і легітымнымі. Нагадваю, што, калі парлямэнт у пытаньні пра давер да сябе парушае правы людзей, Канстытуцыю, закон і ўзурпуе такім чынам уладу, народ мае права патрабаваць яго адстаўкі любымі спосабамі. Аднак у Беларусі няма ніякай сілы, гатовай на энэргічныя захады. І, дадам, ніколі ня будзе з прычыны псіхалягічнай і арганізацыйнай нявдольнасьці цяперашніх беларусаў на рашучыя самастойныя ініцыятывы ва ўласных інтарэсах. Гэты шлях практычна выключаны ў бліжэйшай гісторыі. Хіба толькі нейкія надзвычайныя абставіны (што малаверагодна) зрушаць з мейсца людзей. Аднак станоўчага выніку можа дасягнуць толькі рух нацыі, а не пратэст стыхійна сабраных грамадзянаў.

Перад аблічам здрады аднак ёсьць яшчэ рэсурсы ў нашым грамадзтве. Трэба мацаваць дэмакратычныя арганізацыі й, перш за ўсё, Народны Фронт. Мацаваць ня толькі падтрымкай на словах, але й асабістым удзелам, маральна, матэрыяльна, арганізацыйна, палітычна. Ёсьць яшчэ ў здаровых сілаў шанц дапамогі, шанц супраціўленьня, шанц удзелу й салідарнасьці. Ці будзе ён выкарыстаны — не бяруся сьцьвярджаць. Занадта хворы наш народ. Але іншага шляху, як здаравець, працаваць, ствараць, супраціўляцца здрадзе й змагацца за волю — іншага шляху дзеля разьвіцьця й сцьвярджэньня сябе на сваёй зямлі — няма.

На Беларусі, аднак, ужо ёсьць дастаткова вялікая колькасьць свабодных людзей і тых, што ўсталі з каленяў. Трэба сказаць гэтым людзям: «Мужайцеся!». Бо ў самы бліжэйшы час яны могуць стаць сьведкамі зьдзеку пачкі ўчарашніх зданяў мінулага, што засталіся пры ўладзе,— зьдзеку з Бацькаўшчыны, незалежнасьці, мовы й свабоды. Пад рогат «абраньнікаў народа» й адабрэньне «простых людзей» будуць распраўляцца з грамадзянствам дзяржавы (уводзіць «двайное», як у СССР), з дзяржаўнасьцю беларускай мовы (юрыдычна замацуюць расейскую). Пры пасьпяховым абалваньваньні гатовага зьмірыцца з усім насельніцтва да канца 1993 года Беларусь як дзяржава можа быць фактычна ліквідавана пэнсіянерамі і намэнклятурнымі камуністамі, захаваўшы пакуль толькі фармальныя атрыбуты самастойнасьці. Вось тады і пачнецца самае жахлівае, асабліва для аматараў кілбасы.

У мяне не выклікае сумненьня, што ў такой сітуацыі, думаючы пра лепшае, трэба заўсёды быць гатовым да горшага й рыхтавацца да яго сур 'ёзна й дзелавіта, усімі спосабамі, сродкамі й думкамі, памятаючы Купалу:

«Гэта бітва ідзе сусьветна
Між сьвятлом і апраметнай».

## РАШЭНЬНЕ
### Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»

Беларускі Народны Фронт — грамадзка-палітычны рух, галоўнай задачай якога зьяўляецца усталяваньне дэмакратычнага ладу на Беларусі праз фармаваньне органаў улады.

Існуе небясьпека, што ў выніку «заканадаўчай дзейнасьці» намэнклятурнага Вярхоўнага Савету будзе ўведзена забарона на ўдзел у выбарчай кампаніі для рухаў, што фармальна пазбавіць БНФ магчымасьці актыўна ўдзельнічаць у выбарах.

Каб запабегчы гэтаму, Сойм разглядзеў магчымасьць фармальнага стварэньня ў рамках БНФ партыйнай структуры. Мяркуецца:

— што гэта будзе партыя парляманцкага тыпу;

— што праграмай новастворанай партыі будзе служыць Праграма БНФ, а статут павінен адпавядаць Статуту БНФ, адлюстроўваючы толькі тыя фармальныя прыкметы партыйнай структуры, якіх патрабуе дзейнае заканадаўства;

— што гэтая партыя распачне сваю дзейнасьць толькі з пачаткам выбарчай кампаніі і толькі пры ўмове, калі грамадзка-палітычным рухам ня будзе дазволена актыўна ўдзельнічаць у выбарах.

Сойм БНФ прапануе падчас III зьезду БНФ правесьці паседжаньне, якое мае на мэце ўтварэньне Партыі Беларускага Народнага Фронту. У сувязі з гэтым Сойм заклікае суполкі, рады і арганізацыі БНФ пры вылучэньні дэлегатаў на III зьезд адначасова надаць выбраным асобам паўнамоцтвы (асобным пратаколам) на прыняцьцё рашэньня аб утварэньні Партыі Беларускага Народнага Фронту.

**25 красавіка 1993 г., г. Менск.**

# Сьвята Перамогі

З машыны, якая была абсталяваная радыёапаратурай, на ўвесь Савецкі пляц Горадні ліліся сучасныя рытмы. Вэтэраны, што прыйшлі адзначыць сьвята Перамогі, зьбіраліся на другім баку пляцу, ім вельмі не падабаліся песьні пра сучаснае каханьне. Але арганізатары сьвяточнай імпрэзы й ня думалі мяняць, як кажуць, пласьцінку, бо ў самым цэнтры пляцу разьмяніліся ўдзельнікі велагонкі, прысьвечанай Дню Перамогі.

Згуртаваўшыся колькасьцю прыкладна каля 500 чалавек, вэтэраны ўзьнялі чырвоныя сьцягі й рушылі па вуліцы Савецкай да помніка загінуўшым у баях за вызваленьне Горадні. Тут, у старым парку, й адбыўся мітынг, прысьвечаны 48-м угодкам Перамогі, які скончыўся парадным шэсьцем падразьдзяленьняў Беларускага Войска.

Сьвята перамогі яшчэ раз нагадала людзям аб вялікім сутыкненьні дзьвюх таталітарных сістэм, якія, хоць і рознымі шляхамі, але прэтэндавалі на панаваньне сьветам. Таму дзень 9 траўня зусім ня лішні напамінак людзям аб чырвона-карычневай небясьпецы.

Але, на жаль, прамоўцы на мітынгу, замест таго, каб выказаць удзячнасьць загінуўшым, з усёй моцы надавалі гэтаму дню палітычную афарбоўку. Ня менш значнае й тое, што ўдзельнікі сьвяточнага шэсьця не выканалі загад гарвыканкаму аб немагчымасьці скарыстаньня эсэсэсэраўскай сымболікі ў час шэсьця. Яшчэ турбуе й тое, што ветэраны выступаюць супраць дзяржаўнага сьцяга й гэрба з выявай «Пагоні». Яны выпхнулі з сваіх шэрагаў чалавека ў вайсковай форме, які нёс бел-чырвона-белы сьцяг.

**Г. АСТРОЎСКІ.**



## АДОЗВА
### Другога зьезду палякаў Беларусі да грамадзян іншых нацыянальнасьцяў Беларусі

Мы, дэлегаты II зьезду Палякаў Беларусі, заяўляем аб сваёй падтрымцы ідэй сяброўства, братэрства й супрацоўніцтва ўсіх народаў Беларусі.

Лічым, што ўсе народы Рэспублікі Беларусь павінны мець роўныя правы й магчымасьці для свайго нацыянальнага адраджэньня.

Мы пацьвярджаем, што галоўнай мэтай Саюза Палякаў на Беларусі зьяўляецца адраджэньне роднай польскай мовы й культуры.

Гэта наша мэта заснавана на натуральным праве чалавека й народу й не зьяўляецца перашкодай ці пагрозай для беларускага адраджэньня і іншых народаў Беларусі.

Узаемапавага народаў Беларусі павінна быць заснавана на пашане правоў кожнага народу, ў тым ліку й да нацыянальнага адраджэньня.

Мы — палякі Беларусі — ўносім свой ўклад у эканамічнае й гаспадарчае развіцьцё Беларускай дзяржавы і зьяўляемся яе грамадзянамі.

Падтрымліваем імкненьне беларускага народу да свайго нацыянальнага адраджэньня й адбудовы сувэрэннай, прававой дэмакратычнай дзяржавы.

Зьвяртаемся да Палякаў Беларусі захоўваць свае нацыянальныя, рэлігійныя традыцыі, актыўна ўдзельнічаць ў адраджэньні роднай мовы й культуры, ў працэсе дэмакратызацыі на Беларусі.

Выказваемся за новыя ацэнкі гістарычнага мінулага, лічым, што гісторыя павінна збліжаць народы, а не разьядноўваць іх.

# Патрабуюць да сябе ўвагі

Гэта відавочна са звароту, прынятага другім зьездам Саюза палякаў Беларусі да ўраду нашай дзяржавы. Але дзіўнага ў гэтым нічога няма. Ва ўсялякай цывілізаванай краіне ўрад памяркоўна ставіцца да патрабаваньняў нацыянальных меншасьцяў.

Чаго ж патрабуюць беларускія палякі ад ураду рэспублікі? Найперш, пабудовы ў Горадні, Лідзе й Ваўкавыску школаў з польскай мовай навучаньня. Затым стварэньня ў Горадні «Цэнтру польскай культуры», фінансаваньня дзяржавай польскамоўнай газэты ««Глос з-над Немна» й часопіса «Магазын польскі». Яшчэ палякі Беларусі просяць ўрад аб канкрэтнай фінансавай дапамозе раённым аддзелам СПБ для ўтварэньня клюбаў мастацкай самадзейнасьці і іх культурна-асьветніцкай дзейнасьці, а таксама наданьню жаўнерам АК статута вэтэрана Другой Сусьветнай вайны.

Вось фактычна й увесь пералік патрабаваньняў палякаў, для якіх Беларусь зьяўляецца Радзімай. Што ж, калі ўрад Рэспублікі Польшчы дапамагае беларускамоўным выданьням на сваёй тэрыторыі, то чым мы горшыя?

**Г. Л.**





## *ГРАМАДЗТВА*

# Як будуюцца ў Слоніме

**На пытаньні адказвае народны дэпутат Гарадзенскага вабласнога Савета Іван ЧУГУЕЎ.**

**— Іван Канстанцінавіч, яшчэ задоўга да вашай дэпутацкай дзейнасьці Вы пошукам справядлівасьці, абароннай пакрыўджаных на старонках друку набылі сабе ў Слоніме, раёне й вобласьці славу скандальнай асобы. Прыходзілася і не аднаразова, чуць пра Вас: гэты няўрымсьлівы Чугуеў. Ці Вы па-ранейшаму ім засталіся?**

— Мяркуйце самі: як паводзілі б сябе, напрыклад, вы, калі ў час чарговага свайго выступленьня на сэсіі бачыш, што застаешся не пачутым. Калі зьвяртаешся да кіраўнікоў розных рангаў па тых просьбах, зваротах, скаргах, з якімі йдуць да цябе выбаршчыкі, у сваёй большасьці сутыкаешся з рознымі перашкодамі.

**— !!**

— Чаму так здараецца? Тлумачыцца проста. Вабласны Савет на 90 працэнтаў складаецца з былых партыйных намэнклятуршчыкаў. Радыкальных зьмяненьняў, актыўнай дзейнасьці ад такіх ворганаў не дачакаешся.

Я неаднаразова ўзьнімаў пытаньне аб мэтазгоднасьці існаваньня ў Слоніме двух Саветаў — гарадзкога й раённага. Ну, сапраўды, навошта іх два на 70 тысяч жыхароў. На першай жа сэсіі я зьвярнуўся з дэпутацкім запытам. Адказ атрымаў наступны: па-першае, быць ці ня быць двум Саветам, павінна вырашаць насельніцтва Слонімшчыны, а, па-другое, вабласны Савет вывучыць гэтае пытаньне й дасьць адказ. Мінула тры гады, але ніякага адказу я не атрымаў. Хаця потым ня раз зноў вяртаўся да гэтага пытаньня.

А ўвогуле стыль работы сёньняшніх Саветаў — ад вабласнога да сельскага — аднолькавы: цябе выслухаюць, бывае, і згаджаюцца, потым прымаюць рашэньне, а ў выніку зрухаў ніякіх.

**— Мінула тры гады, як Вы зьяўляецеся дэпутатам. Як Вы асабіста лічыце, ці апраўдалі давер сваіх выбаршчыкаў?**

— Я сябра пастаяннай камісіі па справах вэтэранаў і інвалідаў вабласнога Савета. З праблемамі гэтых людзей мне даводзіцца сутыкацца амаль штодзённа.

Хоць праграма па сацыяльнай абароне вэтэранаў і інвалідаў у раёне праводзіцца мэтанакіравана, але праблем хапае. Шмат у гэтым плане робіцца гарвыканкамам. І жыльлё рамантуецца, і частка людзей перасялілася ў новыя кватэры. У Новых Дзевятквічах нядаўна пачаў дзейнічаць Дом для састарэлых. Аднак асабістыя катэджы кіраўнікоў растуць, як грыбы пасьля дажджу, а для інвалідаў то будматэрыялаў няма, то яшчэ чаго.

Ведаеце, што ў нас у горадзе больш за 200 чалавек адзінокіх састарэлых, з іх больш, як двум дзесяткам чалавек патрэбны догляд. Упэўнены, што большасьць з іх згадзілася б жыць у інтэрнаце. Толькі трэба стварыць ім пэўныя ўмовы. На сэсіях вабласнога й гарадзкога Саветаў узьнімаў гэтае пытаньне. Здаецца, згадзіліся. Нават адбылася нарада ў гарвыканкаме, і вызначылі будынак для Дома састарэлых. Ды на гэтым усё й скончылася.

Усяго за тры гады я накіраваў у розныя ўстановы звыш пяцідзесяці зваротаў па просьбах сваіх выбаршчыкаў. З іх толькі трэцяя частка вырашана станоўча, на астатнія атрымаў адпіскі.

Летась, калі амаль усіх кіраўнікоў ахапіла ліхаманка будаўніцтва катэджаў, я ад **сваіх выбаршчыкаў** зьвярнуўся ў аддзел барацьбы з эканамічнай злачыннасьцю. Просьба была такая: ці законна будуюць жыльлё восем кіруючых асоб Слоніма?

**— Гэта Вы каго маеце на ўвазе?**

— Дырэктара прадпрыемства па забесьпячэньню нафтапрадуктамі М. Салаўя, дырэктара мэблевай фабрыкі Б. Адамовіча, дырэктара гарбыткамбіната Я. Вяселіка і інш. Яны ўсе маюць жыльлё, але без ніякай чаргі ім выдзяляюцца пляцы пад забудовы ў прэстыжных месцах, і, нібы на дражджах, пачалі расьці дамы. Дык вось, запыт трапіў да В. Г. Макаранкі, які ў той час узначальваў аддзел. Ен мне адказаў, што ў яго не хапае супрацоўнікаў, каб рабіць праверкі. Недзе праз пяць месяцаў я зноў атрымаў адказ, што праверка будзе праведзена пасьля заканчэньня будаўніцтва. І што? Асабнякі ўзьведзены, кватэры прыватызаваны, хаця кожны з іх як забудоўшчык пісаў заяву, што пасьля заканчэньня будаўніцтва дома кватэру перадасьць гарвыканкаму.

**— Свая сярмяжка нікому ня важка!**

— Яно так, але, прабачце, павінна быць элемэнтарная чалавечая прыстойнасьць. Нарэшце, амаль кожны з іх зьяўляецца таксама дэпутатам. Мала таго, дык частка старшынь калгасаў вырашыла прапісацца ў горадзе. Скажыце, навошта? Яны таксама будуюць тут сабе дамы. І гэта ў той час, калі каля сотні забудоўшчыкаў стаяць у чарзе на атрыманьне участкаў, каб палепшыць свае жыльлёвыя умовы.

Вось я атрымаў пісьмо ад жыхара вёскі Сасноўка З. Клышко й пачаў дэпутацкае расьследаваньне. А справа ў тым, што дырэктар саўгаса «Сасноўка» І. Скаскевіч за некалькі месяцаў у Рышчычах узьвёў сабе цудоўны палац. А два саўгасныя аднакватэрныя дамы будуюцца ўжо пяты год. Па ацэнках спэцыялістаў кошт будынка Скаскевіча згодна з цяперашнімі цэнамі складае 3—4 мільёны рублёў, а дырэктар заплаціў за саўгасныя будматэрыялы ўсяго больш сямі тысяч рублёў. Праверкі былі, і факты парушэньняў пацьвердзіліся. А што далей? Начальнік горрайаддзела міліцыі на імя начальніка ўпраўленьня сельскай гаспадаркі й харчаваньня дае інфармацыю аб ходзе праверкі, дзе адзначае, што ў дзеяньнях Скаскевіча адсутнічае састаў злачынства, але прагледжваюцца службовая правіннасьць і злоўжываньне службовым становішчам. І прапануе разглядзець пытаньне Скаскевіча ў працоўным калектыве й прыцягнуць да дысцыплінарнай адказнасьці.

Вось так. Усю адказнасьць перакладаюць на плечы калектыву. А дзе ўлада, сіла Закона? Атрымліваецца, што супраць такіх ён не дзейнічае.

На сустрэчах выбаршчыкі мне часьцей за ўсё задаюць адно пытаньне: чаму парушаецца Закон тымі, хто абавязаны яго выконваць у першую чаргу? І як гэта не жахліва, але ў такіх людзей, як правіла, заўсёды знаходзяцца надзейныя заступнікі й абаронцы. Знайшліся яны і ў старшыні Паўлаўскага сельскага Савета У. Якавенкі. Супраць яго ўзбуджалася крымінальная справа за ўчыненьне злачынства (аказаньне супраціўленьня супрацоўнікам міліцыі), але дэпутаты сельскага й раённага Саветаў не далі згоды на прыцягненьне яго да судовай адказнасьці. Пасьля такой усеагульнай парукі хіба можна разьлічваць на посьпех навядзеньня правапарадку й зьніжэньня злачыннасьці? Адчуваючы безпакаранасьць, той жа Якавенка пасьля гэтага двойчы затрымліваўся работнікамі ДАІ за грубае парушэньне правілаў дарожнага руху ў пьяным стане.

**— Іван Канстанцінавіч, выконваючы свае дэпутацкія паўнамоцтвы, Вы што, ніколі не памыляліся?**

— Калі я бяруся за якую-небудзь справу, то імкнуся ўзважыць усе магчымасьці, а таксама кампэтэнтнасьць той асобы, да якой даводзіцца зьвярнуцца па запыту. Вядома, папярэдне, наколькі гэта магчыма, раблю праверку сапраўднасьці перададзеных мне выбаршчыкамі фактаў. А калі адчуваю, што мае паўнамоцтвы слабыя, то хоць параю чалавеку, куды й як яму зьвяртацца.

**— У будучыні распачнецца новая перадвыбарчая кампанія. Ці Вы будзеце выстаўляць сваю кандыдатуру?**

— Усё будзе залежыць ад сітуацыі.

**— Ад якой, калі не сакрэт?**

— Мяне вельмі палохае цяперашняя інфантыльнасьць людзей. А калі выбаршчыку ўсё роўна, за каго ён аддасьць свой голас, тады да ўлады зноў прыйдзе той, каму напляваць на законы.

**В. ВАЛАДАШЧУК.**

# У абарону роднае мовы

Праблемы, якія існуюць на Беларусі, хваляюць ня толькі тутэйшых людзей. Беларуская дыяспара не жадае быць адарванай ад тых падзей, што адбываюцца на Бацькаўшчыне.

У сувязі з намаганьнямі вядомых сілаў парляманцкаю пастановаю прыдаць расейскай мове статус дзяржаўнай Мітрапаліт і Першагерарх Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы Ізяслаў даслаў Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі ліст з пратэстам супраць памкненьняў зьняважыць галоўную апору сувэрэннасьці краю ды далейшага існаваньня беларускага народу — яго мову. У сваім лісьце Мітрапаліт Ізяслаў сьцьвердзіў, што адрачэньне ад дадзенага Богам дару роднае мовы было б пакаральным грахом і заклікаў спадара Шушкевіча ўжыць належную ягонаму становішчу вагу, каб не дапусьціць да ганебнае й злачыннае пастановы Вярхоўнага Савета Беларусі ўзвышэньня да дзяржаўнага статусу чужое мовы.

**(СМ).**

# Віленскія навіны

**ШКОЛА.** Адзіная ў Летуве беларуская вышэйшая школа — аддзяленьне беларускай мовы й літаратуры Віленскага пэдагагічнага ўнівэрсітэту — дзейнічае ўжо два гады. Але сёлета новага набору студэнтаў ня будзе. Так пастанавілі ў міністэрстве культуры й асьветы Літвы, якое фінансуе пэдунівэрсітэт. Адсюль паступіла рэкамэндацыя беларускае аддзяленьне закрыць, а для тых, хто хоча вучыцца па-беларуску, пакінуць спэцыялізацыю «беларуская мова й літаратура» на расейскім аддзяленьні. Прычына называецца адна — брак грошай. Сэнат пэдунівэрсітэту зацьвердзіў рэкамэндацыю міністэрства, а пытаньне беларускага аддзяленьня пакінуў адкрытым: маўляў, калі самі знойдзеце грошы — аддзяленьне будзе, калі не — дык не. Загадчыца кафэдры беларусістыкі пэдунівэрсітэту Лілея Плыгаўка кажа, што ў Міністэрстве адукацыі Беларусі абяцалі грошы даць. Але толькі ў скрайнім выпадку, бо беларускае аддзяленьне ВПУ рыхтуе спэцыялістаў для беларускіх установаў Летувы, а не Беларусі.

**ГРОШЫ.** Нацыянальны банк Летувы ўстанавіў чарговы курс валютаў для бугалтарскіх разьлікаў. Нават адносна нестабільнага летувіскага талёна беларускі «зайчык» працягвае «падаць» — 0.47 талёна за рубель. Крыху выгадней выглядае рубель расейскі — 0.67. Самы танны — украінскі карбаванец — 0.18. Затое досыць упэўнена выглядаюць эстонская крона (42.12) і латвійскі рубліс (4.03). Іх курс увесь час расьце. Тым больш гэта тычыцца амэрыканскага даляра (534.67) і нямецкай маркі (336.54). Нагадаю дарэчы, што беларускія рублі ў віленскіх мяняльных канторах не бяруць. Бяруць — і даволі ахвотна — расейскія.

**ЖЫЦЬЦЁ.** У Летуве людзі чакаюць, калі кошты вырастуць да сусьветных. Кажуць, што тады яны расьці перастануць, хоць ніхто гэтага й не абяцае. Пакуль жа, як запэўнівае ўрад, за энэргетычныя рэсурсы спажыўцы плацяць толькі 80 працэнтаў сусьветнага кошту. Так, прынамсі, выглядаюць расцэнкі, якія ўводзяцца з 1 траўня. Напрыклад, за 1 кілават/гадзіну электраэнэргіі давядзецца плаціць ужо не 5,4, а 6,5 талёна (на беларускія «зайчыкі» гэта прыблізна ўдвая большая сума), а за гарачую ваду — па 300 талёнаў з кожнага жыхара. Такім чынам, агульная плата за звычайную двух-трохпакаёвую кватэру складае 3-5 тысячаў талёнаў у месяц. Для многіх пэнсіянераў гэтая сума перавышае памер пенсіі. Ня дзіва, што ў красавіку каля 57 працэнтаў віленчукоў проста не плацілі за жыльлё й камунальныя паслугі. Каля 114 млн. талёнаў жыхары горада задзяжалі гарадзкім цепласеткам, каля 24 млн.— тэлефоннай службе. Якім чынам улады думаюць спаганяць доўг? Зразумела, праз суд. Пры гэтым будзе карэнна зьменены сам парадак аплаты кварэты й паслуг. Цяпер плату будуць прымаць ня банкі як было дагэтуль, а раённыя самакіраўніцтвы. У новых аплатных кніжках уся сума будзе расьпісана па канкрэтных графах — за ваду гарачую, за халодную, за сьвятло й г. д. Прычым, калі чалавек не аплоціць, напрыклад, газ, яму будуць адключаць тэлефон. Можна зразумець праблемы гарадзкой управы, толькі ж дзе пэнсіянеру ўзяць тыя грошы на аплату? І пра якія сусьветныя кошты можна казаць, калі сярэдні даход кожнага жыхара Летувы — менш за... 10 даляраў у месяц?!

**ЛІТ.** Камітэт літа — летувіскай нацыянальнай валюты — у складзе прэзідэнта А. Бразаўскаса, прэм'ера А. Шляжавічуса й старшыні банку Р. Вісакячуса — апублікаваў заяву «Аб падрыхтоўцы да ўвядзеньня нацыянальных грошай Летувіскай Рэспублікі — літаў». У прыватнасьці гаворыцца пра тое, што ўсе банкаўскія рахункі павінны быць прыведзеныя ў парадак да 1 ліпеня. Трэба думаць, што 1 ліпеня ў Летуве пачнецца абмен часовых грошай — талёнаў — на літы.

**ЗЯМЛЯ.** Новы прэм'ер-міністр Летувы Адольфас Шляжавічус пасля выбраньня на пасаду старшыні Дэмакратычнай партыі працы раздае інтэрв'ю. Паміж іншым, ён, як спэцыяліст у сельскай гаспадарцы, бачыць пэрспэктывы гэтай галіны наступным чынам: «Хачу толькі адно сказаць катэгарычна: праз 5 гадоў уся зямля павінна стаць прыватнай. Гэта найважнейшая прынцыповая ўстаноўка, якую мы будзем імкнуцца ўсяляк ажыцьцяўляць. Няма альтэрнатывы эфэктыўнасьці прыватнага сэктара з пункту гледжаньня інтэнсіўнасьці. Таксама трэба прытрымлівацца прынцыповай установкі на рэстытуцыю. Пераемнасьць права ўласнасьці — сьвятая й неаспрэчная».

**Паводле матэрыялаў сродкаў інфармацыі падрыхтаваў А. К.**

**СЯБРЫНА.** 29 красавіка адбыўся чарговы сход рады віленскага беларускага клюбу «Сябрына». Лідэр клюбу сп. Валяньцін Стэх быў нарэшце абраны законным старшынёй. Было пастаноўлена вывесьці клюб з нефармальнага стану й афіцыйна зарэгістраваць «Сябрыну». З імпрэзаў пастанавілі ў бліжэйшым часе правесьці «Шкалярскае сьвята» й народнае сьвята Купальле.

**ГОСЬЦІ.** 1 траўня ў Вільню прыяжджалі навучэнцы нядзельнай уніяцкай школкі з Менску разам са сьвятарамі. Ва ўніяцкай Сьвята-Троіцкай царкве, у славутых «Базыльянскіх мурах», было праведзена набажэнства па-беларуску.

**Сьцяпан ДЗІНЬ-ДЗІЛЕВІЧ.**





## ГОРАД

# Пляцы без конных помнікаў

Набыцьцё суверэнітэту, разцэнтралізацыя й дэрусіфікацыя нашага жыцьця нарэшце стала заўважна на вуліцах гарадоў. І гэта ня толькі й ня столькі дыпляматычныя «мэрсэдэсы» са сьцягамі замежных дзяржаваў на капотах, як зьяўленьне новых шыльдаў на будынках устаноў, якія, праўда, пакуль што стаяць на вуліцах з да болю знаёмымі назовамі. Але й тут постсавецкая сялянская культура (мы — беларусы, маўляў, хлопцы простыя) пакінула свой грунтоўны адбітак. Як сказаў некалі князь Трубяцкі — аўтар скандальна вядомага ў свой час коннага помніка Аляксандру III у Пецярбурзе: «Я хацеў паказаць адну жывёліну вярхом на другой», дык і нашая легендарная Пагоня, тысячамі разтыражаваная з афіцыйна-зацьверджанай выявы, больш нагадвае нейкую атрыбутыку аратага, чымсьці прафэсійна-ваярскі сымболь былых змагароў за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Суцяшае тое, што маладая гэнэрацыя прадстаўнікоў творчае інтэлігенцыі, тых, каго ні па крыві, ні па эстэтычных патрэбах ня можа задаволіць міф пра сялянскасьць беларускае нацыі, і тут здолела «сказаць сваё важкае слова». Пошукі сваёй культуровае традыцыі прывялі маладых творцаў ня толькі да нігілістычнага адмаўленьня нацыянальных здабыткаў, што можна прасачыць у творчасьці авангардыстаў, але й да эстэтычных прынцыпаў нашае былой эліты. У манумэнтальнае скульптуры выявілася гэта найбольш у творчасьці Валяр 'яна Янушкевіча, аднаго з прадстаўнікоў вельмі вядомага зараз на Беларусі шляхецкага роду, які паходзіць з Ракава, што пад Менскам. Ягоны «вершнік на кані» вызначаецца тонкімі рысамі твару, дарагой бранёй, разумнымі вачыма. Ён — князь, які дакладна разумее, чаму трымае ў сваёй руцэ меч.

А калі ёсьць выбар, кожны з «дзяржаўных мужаў» замаўляе сымболь, зыходзячы з уласных уяўленьняў пра статус нашае краіны й пра яе сувэрэнітэт. Зараз «Пагоні», працы Валяр 'яна Янушкевіча, пазначаюць нашае міністэрства замежных справаў, хутка зьявяцца на пасольствах у Польшчы й Нямеччыне. Ён жа робіць гэрб і на будынак Дома ўраду. Праўда, вешаць загадалі на кансолях, каб стары — БССРаўскі праглядаў, калі падыйдзеш блізка да будынка. Нічога, я думаю гэта будзе сымболь, варты нашай дзяржаўнасьці. А яшчэ бронзавыя мэмарыяльныя дошкі Валяр 'яна Янушкевіча, прысьвечаныя 500-годдзю Францыска Скарыны, літаральна зьдзіўляюць сваім густам і дасьціпнасьцю наведвальнікаў Падуанскага й Кракаўскага унівэрсітэтаў. Вось і атрымліваецца, што адзін малады мастак больш працуе на аўтарытэт нашае дзяржавы, чымсьці некаторыя вялізарныя міністэрствы й ведамствы.

Я пачаў пісаць пра адбіткі сувэрэнітэту на вуліцах нашых гарадоў, але пакуль што ня ўзгадаў самае істотнае — помнікі. Звычайна па іх можна зразумець, у якой краіне ты знаходзішся. Калі прайсьці па праспэкце Скарыны ў Менску, убачыш Леніна, Дзяржынскага, Купалу, Коласа, Калініна. Зразумела, што абвясьціць незалежнасьць можна даволі хутка, а на кожны помнік, па словах Валяр 'яна, гадоў пяць часу ідзе, ад задумы да яе ўвасабленьня. Цяжкасьць у тым, што помнік — у першую чаргу, твор мастацтва. А ў мастака звычайна, акрамя пары рук, нічога няма. У таленавітых, праўда, яшчэ ёсьць галава. Помнікі ж вельмі дорага каштуюць. І таму, як бы няпрыемна гэта не было, калі пра іх заходзіць размова, мастацкі й фінансавы бакі ў ёй ураўнаважаны. Каб паставіць помнік, бяз супольнасьці ўладаў і скульптара ня абыйсьціся. Але ўжо ёсьць цудоўныя прыклады сталага супрацоўніцтва. Пра гэта я й папрасіў распавесьці Валяр 'яна Янушкевіча:

**— Валяр 'ян, я ведаю, што Вы паставілі ўжо два помнікі. Абодва — Адаму Міцкевічу й абодва на Гарадзеншчыне. Распавядзіце, калі ласка, наколькі цяжка альбо лёгка было гэта зрабіць.**

— У абодвух выпадках з фінансамі, можна сказаць, пашэньціла. Помнік у Наваградку абыйшоўся ў 11 тысячаў рублёў. У свой час. А калі яго адкрывалі, дык за добраўпарадкаваньне й архітэктуру заплацілі ўжо мільён рублёў. Праўда іх тады яшчэ Губенка даў, перад самым распадам Саюза. Мне за працу польскае міністэрства культуры зрабіла бясплатную паездку ў своеасаблівы Дом творчасьці для мастакоў у Ароньск, што пад Радомам. Я там працаваў двааццаць дзён. А наконт бюста ў Лідзе... Мясцовыя паляні дагэтуль пішуць, што яны яго самі паставілі. Ніхто ні разу не ўзгадаў, што гэта я фактычна падарунак зрабіў.

**— Вы афіцыйна рабілі яго як падарунак?**

— Проста я ня браў грошы ў якасьці аўтарскага ганарару. Я адразу зразумеў, што гэта будзе ахвярная праца, бо ў іх грошай ледзь-ледзь хапіла, каб адліць помнік і паставіць яго. Але, урэшце, каб ня польская культуровая суполка, Міцкевіча ў Лідзе не было б.

**— Я чуў, што хутка ў гэтым горадзе адбудзецца яшчэ адна значная падзея, зноў-такі з Вашым удзелам!**

— Так. Калі яшчэ бюст Адаму Міцкевічу адкрывалі, да мяне падыйшлі лідчукі й папрасілі, каб я зрабіў помнік Скарыну. Зараз ён ужо практычна скончаны й у траўні мы мяркуем яго прывезьці ў Ліду. Ён будзе стаяць каля касьцёла ў скверы. Там ужо заняліся добраўпарадкаваньне. Адкрыцьцё плануюць прымеркаваць да купальля.

**— Але з гэтым помнікам ня ўсё так удала атрымалася. У чым тут справа? Наколькі мне вядома, ён ужо даўно павінен быць адкрыты!**

— Я ўжо ў 89-м годзе здаў рабочую мадэль і да 500-годдзя можна было б яго паставіць. Лідзкія суполкі ТБМ і «Рунь» пачалі зьбіраць грошы на помнік. Давалі як асобныя людзі, так і прадпрыемствы. Сабралі 30 тысячаў рублёў, і я мушу сказаць, што на тыя часы гэта была велізарная сума. Вельмі істотна тое, што раней помнікі Бог ведае адкуль зьяўляліся, а тут людзі самі ўдзельнічалі й выраашалі, каму помнік у 'сваім горадзе паставіць. Але ў 89-м годзе я не атрымаў месца ў цэху, праца зацягнулася. А потым тая інфляцыя, і гэтыя ўсе грошы, лічы, прапалі. А зараз за адно ліцьцё толькі заплацілі мільён. Тут ужо ўся вобласьць дапамагала.

**— Усьцешвае тое, што ў гэтым выпадку перамаглі ўсё ж такі ня цяжкасьці, а натуральная прага людзей вызначыць свой родны горад з шэрага раду былых савецкіх «райцэнтраў». Але размову пра Ліду нельга лічыць завершанай, калі не закрануць пытаньне наконт коннага помніка Вялікаму князю Гедзіміну, пра які Вы распавядалі мне раней. Гэта толькі мара!**

— Не, ня мара. Гэтай думцы ўжо пяць гадоў. Агульнапрызнана, што конныя помнікі — гэта галоўныя помнікі краіны, якія паказваюць яе аўтарытэт, ставяць у адзін шэраг з вялікімі дзяржавамі, служаць доказам яе багатай гісторыі. На Беларусі конных помнікаў няма... Але ў нас ёсьць каму іх ставіць. Безумоўна, гэты прагал будзе запаўняцца. Калі ж рабіць першы — адказнасьць вялікая, бо калі няўдала паставіць, ён можа не «прагучаць». І тут ужо ня мае прынцыповай розьніцы, у якім горадзе ён будзе стаяць. Але я ўпэўнены, што нідзе, ні ў Менску, ні ў Нясьвіжы, ні нават у Вільні няма лепшага, больш эпічнага месца для коннага помніка, чым у Лідзе каля замка, на развілцы дзвюх вуліц. Уяўляеш, як цудоўна выглядаў бы князь Гедзмін на высокім пастамэнце, на фоне неба, паміж дзвюх вежаў замка, які ён і будаваў!

**— Ці можна спадзявацца калінебудзь убачыць яго там!**

— Пакуль што былі толькі папярэднія размовы. Але я думаю, што калі лідчукі два помнікі адужалі, дык на трэйці яны таксама наважацца. Тым больш, што трох помнікаў для такога горада, як Ліда — цалкам дастаткова.

**Алесь АСТРАЎЦОЎ,**
**Менск.**

● *Напаўпадарожныя зацемкі*

# Жабрак у прыбіральні

Дзякуючы ранейняму часу білет на твой рэйс каштуе на 200 р. таньней, усяго тысячу. На сьцяне аўтавакзала абвестка: прадаецца на запчасткі Фалькесвагэн-пасат 1983 года, названы адрас — чыгуначная станцыйка ў Шчучынскім раёне.

Уязджаем у Скідаль. Сучасная аўтастрада легла пасярод поля, рассьцяўшы горад напалам. У салён пранікае сьмярдзеньне. Звычайная справа, гэта — мясцовая птушкафабрыка. Дзвюхдарожная аўтастрада сягнула амаль паловы шляху да Шчучына.

Дзевяць раніцы, пяць хвілін на дзесятую. У Лідзкім аўтавакзале ўжо адчынены газэтны кіёск, «Пагоню» усю раскуплялі. У крамцы пры хлебазаводзе бяруць усякія грошы і каштуе ўсё таньней, чымсьці ў Горадні. Купляеш сабе цестачка. Побач вашага аўтобуса «Баранавічы-Вільня». На шыбах папярэджаньне: плата за 1 км — 3,5 руб.

У Менску ў сьмярдзючай падземнай прыбіральні проста на доле сядзіць жабрак. Навошта ён тут? На прывакзальным пляцы «брама», паміж яе вежамі-дамамі пафасна-фальшывы транспарант «Ахвярам Чарнобыля — рэальную дапамогу». Раней на яго месцы віселі «Наша цель — камунізм!», «Перастройка — дзела ўсенароднае», «Слава капээсэ!» і г. д.

Бананы ў сталіцы па 1100 руб. за кг, яны прадаюцца на кожным кроку. Пры камуністых такога не было. У «Глёбусе» адбываецца падпіска на расейскія выданьні. На прылаўку сярод іншых газэт ляжыць адзінадзіны паасобнік «Пагоні». Ты купляеш «Здраду», спэцвыпуск «Навінаў БНФ». Прадаюць расейскія познамкі, падробныя абразы, па 18 тысяч матрошкі з пяці штук: карыкатурныя твары савецкіх дзячоў ад Леніна да Гарбачова. Хрушчову пашанцавала, яго ўнутры прэзідэнта СССР няма.

Былая цэкоўская гасьцініца «Акцябрская». У рэстаранку сябра нагадае табе: тут некалі еў Яфрэм Сакалоў. Сьпінай да вас сядзіць кабетка. Як на вугольлі. Нарэшце паварочваецца: рэбята, вот вы пабеларуску гаварыце, а как будзет «сьлівачнае масла»? «Сьмятанковае». «А вяршковае?» «Таксама можа быць...»

Увечары спатканьне з бэрлінскім прафэсарам, які прывёз з сабой студэнтаў-журналістаў. Потым — пачостка.

У кнігарні пісьменьніка. Набіраеш цэлы стос новых кніжак. Да Горадні яны амаль не даходзяць: тыражы невялікія, дый па-беларуску болей сталі чытаць, гома-савецкага робіцца менш. Вершы Цыпрыяна Норвіда ў перакладах А. Мінкіна, таксама выдатны тамок «Авантуры майго жыцьця» Саламеі Пільштыновай з Русецкіх у перакладзе М. Хаустовіча. Чарговая кніжка з «Бібліятэкі замежнай прозы», за гэтым разам Г. Бёль, «Більярд а палове дзесятай», з нямецкай пераклаў Л. Баршчэўскі. Выдадзена «Апавесьць для сябе» Б. Мікуліча і «Споведзь» Л. Геніюш. З паэзіі бярэш толькі апошнюю кніжку А. Разанава —«У горадзе валадарыць Рагвалод», тыраж 700 штук. Усё разам каштуе 200 з нечым рублёў. Самыя дарагія «Авантуры...», 75 р. Нішто, раўнуючы з цэнамі ўсёй той макулатуры, што апанавала гарадзенскія кнігарні і якой усё ніяк не здаволіцца наш пакупнік.

Трактарный завод. Брама з дзвюх вежаў, менш пампезная за прывакзальную. На абедзьвюх у сонечным небе велічна лунаюць Белчырвона-белыя сьцягі. Але вуліца паміж дамамі перагароджана змрочнай цёмна-шэрай будынінай, на якой — аграмадныя мэталёвыя ордэны Леніна й кастрычніцкага перавароту. Уражаньне вельмі кантраснае. Гэта ўжо намайстравалі ў апошнія гады «развітога сацыялізму».

На ратондзе цырка анонс новай праграмы: «Коні, осьлікі, малпы, удавы, сабачкі, птушкі».

У фірмовай краме «Лянкамэ», жаноцкая прынада. Парфумы з Францыі прадаюцца за рублі. Як на журналісцкую кішэню, дык даступны хіба дэзадаранты, «Фіджы» — 9 тыс.

Адбываецца пасадка ў аўтобус. У дзьвярах узьнікае былы абкамаўскі першы сакратар Сямёнаў, сівы й загарэлы, мабыць быў у сталіцы па партыйных справах. Уаднае дзяўчыны білет аказаўся бяз месца, шафёр безцырымонна зганяе яе са службовага месца, на якое амаль адразу сядае мужчына з выразна каўказкім абліччам. Маладзён побач цэбе скэптычна камэнтуе: «Мафія не знает граніц». Малады голас ззаду абураецца: «Плоха вам была пры камуністах, вот вам цяпер пры дэмакратах». Наіўны маладзён! Дзе ж ён бачыў тых дэмакратаў? Хіба што ў сьне.

Побач стаіць бел-чырвона-белы летувіскі аўтобус з нумарам «ЛІЛ». Наперадзе нехта разгарнуў кніжку, назва главы «Сорак саракоў», мабыць некага з расейскіх эміграантаў: Зайцаў? Шмялёў?

На выезьдзе з горада шыльда «Кавярня». Упершыню замест «кафэ»! Беларуская мова пачала перамагаць белсавецкую. Адразу пачынаецца вёска Кунцаўшчына, калісьці яна была за горадам. Ты трапіў сюды на першай сваёй журналісцкай практыцы. У канторы табе нешта казалі пра казачную эканомію гсм, а потым высьветлілася, што ты крыху спазьніўся, у калгасе адбылася важная падзея: карова ацялілася адразу некалькімі цялятамі, іхні здымак трапіў у газэты.

Нехта захацеў зьесьці аранжык, смачны водар распаўсюджваецца па салёне.

Едзеце лесам. Два разы пампезныя стэнды «Слава труду» й аднойчы «Миру-мир!» Гэта для каго, для ваўкоў і зайцаў? Нехта падпаліў траву, выгарэла ў хмызах, агонь сягнуў цераз агароджу могілак. Ніхто не гасіць. Двойчы бачыў, як курэюць кінутыя цяпельцы, адно нават каля рэек вузкалейнай чыгункі.

Душа адпачывае: усе дарожныя шыльды выканаваны па-беларуску й амаль без памылак. Беларусы на Беларусі ўжо не нацменшасьць, для якой па ўказаньні КПБ гадоў 4—5 таму нарэшце пераклалі тапонімы. Тупагаловыя чыноўнікі старанна вывадзілі: «Лида. Ліда» й пляскалі ў ладкі ад задавальненьня, што агаралі незнаёмую літару «і».

Вяршыняй тупасьці савецкага чыноўніцтва сталася «двухмоўная» дарожная шыльда, якую ты занатаваў калісьці ў Дзятлаўскім раёне: «ГЕЗГАЛЫ. ГЕЗГАЛЫ»!

**П. ГРЭЦКІ,**
**Горадня-Менск-Горадня.**

# НОБЭЛЬСКІЯ ЛЯЎРЭАТЫ / ДЗЁНЬНІКІ

Чэслаў МІЛАШ

## Год паляўнічага

Урыўкі з кнігі

ПРАДМОВА

Адкуль гэткі дзіўнаваты назоў? Перадусім так называлася кніжка, якую я любіў у свае школьныя гады, і памяць пра якую хачу ўшанаваць. Яе аўтарам быў Уладзімір Корсак, ніколі не залічаны да пісьменьнікаў, але вядомы сярод аматараў прыроды, а менавіта той, прыгажосьцю каторай славіліся землі былога Вялікага Княства. Корсакаў сярод той шляхты, а пагатоў на Беларусі, было безьліч («Цо крачэк, то Корсачэк»). Ён паходзіў з Віцебшчыны. Пасьля Першай Сусьветнай вайны ён апынуўся ў Польшчы, абраў сабе лясьніцкі занятак, а таксама пачаў пісаць (...). Свае аповяды Корсак сяды-тады дапаўняў малюнкамі тушам, вельмі добрымі, аднак яны сьведчаць, што яго цікавіла болей не само маляваньне, а слушнасьць й дакладнасьць дэталяў. Я вельмі абавязаны яму за веды пра птушак і зьвяроў, таму падзяка яму праз пазычаньне кніжнай назвы павінна хіба выглядаць дарэчы.

«Год паляўнічага» — як бы каляндарна падзелены падручнік па паляўніцтву, праўда, перш за ўсё ён датычыць лясных абшараў Поўначы. Мая кніжка з гэтай тэматыкай ня мае анічога агульнага, але затое ёй добра адпавядае форма календара. Яна — дыярый аднаго году: ад жніўня 1987 да жніўня 1988 г. На ейных старонках нітуюцца сучаснасьць з прошласьцю, бо ў сваіх запісах, штодзённых або робленых праз колькі дзён, я часам вяртаюся да мінулых падзей і людзей, каторых некалі ведаў (...)

Том зацемак аднаго году ляжыць перада мной, а я прынамсі вагаюся з яго абнародаваньнем. Можна прагнуць збудаваць сябе, скласьці сваё аблічча гэткім, якім яго паводле нашага жаданьня павінны атрымаць нашчадкі і якое ня выкліча аніякіх закідаў. Тады паўстае пытаньне, а ці варта рабіць наадварот: не хаваць сваіх слабасьцяў, паказваць свой жыцьцярыс цалкам толькі таму, што гэтак занатавана ў асабістым дзёньніку? Не, я меў на ўвеце магчымага будучага чытача й каб адмовіў гэта, дык сказаў бы няпраўду. Аднак самы ідэальны вобраз мяне самога ў маім разуменьні не кіраваў мной, таму сумняваюся, каб нейкі мой будучы біёграф здолеў бы разшыфраваць мазаіку, у якой засьведчаны выпадкі з жыцьця загадкавай для мяне самога постаці.

Я вагаюся й таму, што калі абнародую гэты том замест таго, каб пакінуць у машынапісе й прызначыць для некалькіх сяброў, дык гэта будзе азначаць, што я наважыўся пэўным чынам вылучыцца. Аднак усё адно не магу пазбыцца пачуцьця, што раблю гэта на сваю шкоду.

2 VIII 1987

Кнігі і слоўнікі. У маім жыцьці хапіла б матэрыялу на раман, але я цешуся, што не пішу раманы. Гэта магло б быць амбіцыяй ляўрэата Нобэля, зважаючы, што мая вядомасьць вузкая, абмежаваная чытачамі паэзіі. Я з пэўнасьцю хацеў бы, каб тыражы маіх кніжак былі большымі, але таксама цаню наканаваную мне раўнавагу, упісаную звыш у мой лёс наступнымі словамі: вядомасьці заўжды не зашмат, а ў самы раз.

Перавага раману ў магчымасьці апісваць нашыя дачыненьні з іншымі людзьмі, не паказваючы на іх пальцам, або дастаткова іх ахоўваючы. Калі пішаш дзёньнік або ўспаміны, дык гэтага прывілею ня маеш, хіба што адкінуць, як шмат хто сёньня робіць, усякую памяркоўнасьць.

5 VIII 1987

З Жэневы на два дні да Мэнтоны, у знаны мной гатэль Л 'Аглён. Тутака таксама дождж... Вяртаньне ў Парыж, пахмурна й дажджыста...

Францыя цяпер, ужо некалькі год, прыемная для мяне дзякуючы адплаце за зьведанае прыніжэньне. Я можа й не чуўся б тады, у пяцідзесятыя гады, нагэтульскі прыніжаным, каб не жадаў паэтычнай славы. Пра мяне ведалі пару чалавек, Жан Кассо, С 'юпэрвіль, але я адчуваў скурай вакол сваёй асобы зусім іншую аўру: нейкі дзівак, можа крыху шаленец, які працуе ў духу антыкамунізму. Галімар мяне выдаваў з прычыны майго Эўрапэйскага Прызу, але выглядала на тое, што мае кнігі пры распаўсюджваньні ігнараваліся, бо іх вельмі цяжка можна было адшукаць у кнігарнях. Толькі пакуль жыў Камю, я меў у Галімара саюзьніка. Калі адзін італьянскі выдавец лістоўна запытаў Галімара пра мяне (здаецца, ужо напрыканцы сямідзесятых, напярэдадні ўзнагароджаньня Нобэлем), яму адказалі, што аўтар — невядомы...

10 VIII 1987

Існуе своеасаблівая якасьць паўночнага сьвятла, мне яна адкрылася, калі мы згарнулі свой намёт у кэмпінгу ў канадзкіх Скалістых гарах, у нацыянальным парку Яспэр, адкуль (у жніўні) мяне з Янкам выгнаў першы сьнег. Быў 1969 год. Дарога на Эдмандтон адтуль кіруе на поўнач, потым крыху збочвае. І вось тамака, над Атабаскай, я сутыкнуўся з гэтай своеасаблівасьцю паўночнага сьвятла, да якой, зрэшты, шмат насельнікаў нашай планэты прызвычаены, таму нават яе не заўважаюць. Упершыню я меў падобнае адчуваньне, калі нядоўга перад выбухам ІІ Сусьветнай вайны прыехаў з Варшавы ў мястэчка Глыбокае, дзе тады працаваў мой бацька. Глыбокае ня больш паўночнае за мой родны павет, але затое знаходзіцца значна далей на ўсход, можа адсюль й гэткая розьніца. Я ніколі так і не апісаў тое мястэчка. Навокал найсапраўдная Беларусь, у самім мястэчку барока паезуіцкіх касьцёлаў, а ў цэнтры — штэтль, вядомы з яўрэйскай літаратуры й карцін Шагала, гэткай вялікай колькасьці скупаваных у цяснасьці драўляных крам я ніколі перад тым й пасьля таго ня бачыў. Выглядала, нібыта адзін вялікі кош быў падзелены на мноства крамак...

13 VIII 1987

... У маленстве я ня раз чуў легэнду пра сербскае паходжаньне Мілашаў, магчыма з прычыны тоеснасьці прозьвішча з імем сярэднечнага гэроя. У Белградзе я жыў на вуліцы князя Мілаша. Шанаваньне маёй асобы ў Югаславіі, пераклад амаль усіх маіх кніг, абраньне ў сэрбскую Акадэмію навук й нарэшце прызнаньне тут, у Парыжы, адной югаслаўскай журналісткі, якая сказала, што лічыць мяне бадай сваім.

Учора я атрымаў з Будапэшту прыгожа выдадзены па-венгерску том маіх вершаў. Мяне доўгі час не выдавалі там у выніку захадаў пасольства ПНР у венгерскім Міністэрстве замежных справаў. А колькі дзён таму Томас Вэнцлава прыслаў мне том вершаў і перакладаў Ёзаса Кэкштаса, выдадзены ў Вільні, у якім я знайшоў 26 сваіх вершаў. Кэкштас памёр у 1981 годзе ў Варшаве, ён быў адной з постацяў маёй віленскай маладосьці. Якую цікавую меў біяграфію! Ён быў арыштаваны польскімі ўладамі за камунізм (сядзеў у адной камэры з беларускім паэтам, каторага я ведаў,— Максімам Танкам), потым яго зноў арыштавалі, сасланы ў канцэнтрацыйны лагер у Картузкай Бярозе. Пасьля заняцьця савецкімі войскамі Вільні яго дэпартавалі ў Гулаг, а затым была армія Андэрса, Іран, Ірак, Ягіпет, Італія. Ваяваў пад Монтэ-Касіна, быў паранены, узнагароджаны, эміграваў у Аргентыну, дзе многа гадоў працаваў рабочым; калі захварэў (паралюш), дык перабраўся ў Варшаву, бо быў польскім грамадзянінам, й тамака дваццаць гадоў жыў у Доме для вэтэранаў.

14 VIII 1987

Я хацеў бы вызваліцца ад маралізаваньня, але ня ўмею. Рамантычная звычка самакампэнсацыі занадта моцная. Гэта азначае, што калі хацеў бы быць добрым, але ім не зьяўляешся, дык няхай хаця б твае кніжкі служаць дабру. Але яны дваістыя й не залежаць ад цябе; адзін раз табе здаецца, што яны служаць дабру, а другім разам—не. І вось ты зайздросьціш аматарам мастацтва дзеля мастацтва, тым — даўнешым і, трохі з іншай назвай, сёньняшнім, бо яны не задаюць сабе падобныя пытаньні.

(Працяг будзе).

Пераклаў з польскай мовы С. АСТРАВЕЦ.



# Сталічныя паведамленьні

### АЛЬБЭРТ ЭНШТЭЙН, КОБА І СТАЛІЦА БССР

У газэце «Вечерний Минск» апублікавалі Успаміны былых асьпірантаў інстытута фізікі АН БССР пра падзеі 30-х гадоў, паведаныя ім у свой час вядомым вучоным, акадэмікам Віталям Сэрбентам. Гісторыю гэтую сьмела можна назваць сэнсацыяй.

У 28-м годзе ў Менск пераехаў вядомы фізык Якаб Громэр, які на працягу 13-ці гадоў быў асістэнтам Альбэрта Энштэйна. Пераезд, па ўсім відаць, нельга лічыць выпадковым, бо сам Громэр быў родам з Берасьця. У 31-м годзе ён ідзе працаваць у толькі што створаны Фізыка-тэхнічны інстытут пры беларускай акадэміі навук. Працаваць і жыць у сталіцы БССР яму хутчэй за ўсё падабалася, пра што ён і пісаў у лістах свайму настаўніку. А таму, калі уціск на вялікага навукоўца ў Нямеччыне, дзе ў той час ірваліся да ўлады фашыстоўцы, стаў нявыносны, Альберт Энштэйн папрасіў Громэра высьветліць пра магчымасьць ягонага пераезду ў Менск. Справай якраз і займаўся член прэзідыума акадэміі навук сп. Сэрбент. Пытаньне трэба было вырашаць даволі хутка, бо вялікі фізік якраз хістаўся паміж Беларусьсю й ЗША. Для канчатковага вырашэньня пытаньня дэлегацыя накіравалася ў Маскву, да «бацькі народаў». Язэп Візарыёнавіч выслухаў просьбу беларускіх навукоўцаў, памаўчаў і зрабіў высновы: «Няхай ён там, у сінагозе на скрыпцы грае». Громэр паведаміў пра адмову Энштэйну, і той пасьпяхова перабраўся ў Амэрыку.

Вось так «вялікі правадыр усіх часоў і народаў» ўратаваў вялікага Альбертэ Энштэйна й спрычыніўся да таго, што набыткам сусьветнае цывілізацыі стала ў свой час ягоная Тэорыя адносьнасьці.

### ІДЭЯЛАГІЧНАЕ ЗАБЕСЬПЯЧЭНЬНЕ БТ

Сьвяткаваньне 1-га траўня ў Менску прайшло ціха й спакойна. На сьвяточны мітынг сабраліся разам партыі камуністычнага й сацыялістычнага накірунку, прафсаюзы. У адным натоўпе стаялі людзі, якія часта аказваюцца па розныя бакі паркану.

Пра маскоўскае пабоішча паведамілі толькі расейскія й замежныя сродкі масавай інфармацыі. Разгублены сп. Сталяроў, не атрымаўшы загаду пра тое, у якім сьвятле падаваць гэтую падзею, увогуле забараніў штосьці казаць. Разгубіліся, мабыць, і ў саўміне. Але доўга так працягвацца не магло, трэба было хоць неяк адрэагаваць. І вось 2-га, пасьля кароткага ўрыўка з месца маскоўскіх падзей на экране зьявіўся твар... сустаршыні ПКБ партайгэноссэ Чыкіна (?). Ён некалькі хвілінаў распавядаў нешта пра тое, што кліка здрадніка народу Ельцына наладзіла разьню над беднымі мірнымі камуністамі.

Пасьля ўсяго гэтага паўстае некалькі пытаньняў. Па-першае, у якасьці каго выступаў Чыкін? Альбо ў якасьці блазна, калі галоўныя баяцца нешта сказаць, альбо ён застаецца нягласным начальнікам па партыі ўсяго нашага ўраду й управы Дзяржтэлерадые? Па-другое, навошта ж тады нашыя нэакамуністы заклікаюць нас падпісваць абаронны саюз з «крывавай клікай»? І па-трэйцяе: можа яны хочуць падпісаць гэты саюз, каб нашыя хлопцы пайшлі абараняць хазбулатаўскі вярхоўны савет ад Ельцына? Ну тады ўжо гэта «черезчур».

А. ДУБРОЎСКІ.

# СТАРЫ МОСТ

**Паміж двума гарадзенскімі замкамі існуе стары мураваны мост. Стаяў ён, стаяў ды пачаў разбурацца. Чатыры гады таму зрабілі над ім павець, але мост па-ранейшаму разбураўся. Нядаўна павець наогул абрынулася, ледзьве не пахаваўшы пад сабой пару закаханых... Як шкада, што абкам КПБ месьціўся ў Новым, а не ў Старым замку, бо тады б мост адрамантавалі яшчэ чатыры гады таму!**

**(бл)**

**Фатаграфаваў А. У.**









# На роднай мове з 9 да 18...

Беларускімі вячоркамі сёньня ўжо нікога ня зьдзівіш. Яны трывала ўвайшлі ў рэпэртуар мастацкіх калектываў, у жыцьцё школак і дзіцячых садкоў. Дзетак ужо не зьдзіўляюць прылады быту мінуўшчыны, старажытныя абрады й песьні, «незразумелыя» беларускія словы... На шчасьце (не хапае пакуль свайго аптымізму), нашы дзеці становяцца беларусамі па сваёй сутнасьці з першых дзён наведваньня дзіцячых садкоў. І з захапленьнем вымаўляюць «дзякуй» замест «спасибо», «аловак» замест «карандаш», «цацка» замест «игрушка». З гонарам сьпяваюць «Цячэ вада ў ярок» і называюць сябе беларусамі... Ды толькі ўсё гэта, як ня дзіўна, скончваецца а 18 гадзіне, калі малыя пакідаюць сьцены дашкольных установаў і акунаюцца ў хатняе асяроддзе...

Найчасьцей бацькі родную мову ня ведаюць, забыліся або папросту не жадаюць ёй карыстаццца ў сям 'і. І 'малое, хоча яно таго ці не, перайначвае сябе на іншы лад, а калі яшчэ любая мама прыкрыкне: «Ды не «сонейка», а «солнышко»,» становіцца зусім ніякавата...

Ведаючы ўсё гэта, пэдагогі дзіцячага садка № 6 у Шчучыне вырашылі: настала пара «ўзяцца» за бацькоў!

І сабралі вячоркі...

Гэтым разам гледачоў не было. Усе разам — і дзеці, і іх бацькі — сядзелі за вялізным-вялізным сталом: пілі гарбатку, ласаваліся прысмакамі, нахвальвалі аладкі й... сьпявалі, жартавалі.

На печцы спаў вялізны чорны кот, пад стольлю віселі кілбасы, у калысцы мірна пасапвала немаўлятка... Нехта вышываў, нехта лоўка перабіраў вязальныя пруткі, нехта размотваў ніці...

Прыходзілі ўсё новыя й новыя госьці ў нацыянальных строях, зьвінелі бубны, граў гармонік.

Ніхто не заўважыў тое імгненьне, калі бацькі цалкам забыліся пра ролю сур 'ёзных дарослых і сталі самімі сабой. Як радасна сьмяяліся, як безклапотна весяліліся на вячорках разам са сваімі сынамі й дочкамі стомленыя ад бясконцых клопатаў людзі! І як зьдзіўляліся дзеткі, калі іх таты й мамы раптам пераходзілі на беларускую мову! Выявілася, што й беларускія песьні мамы ведаюць, і і вершы, й прымаўкі.

У той вечар было зроблена шмат адкрыцьцяў. Добрых адкрыцьцяў. І, можа, упершыню так яўна мамы й дзеці адчулі гонар адныя за адных. Гонар за свой дом і мову, за Бацькаўшчыну.

... Усю дарогу з садка мы з сынам сьпявалі «Купалінку». Потым гулялі ў беларускія словы... А калі падыйшлі да інтэрната, ён расчаравана сказаў: «Ну, усё... Зноў дома па-руску гаварыць будзем... Скончылася сьвята...»

Я цалавала мілы тварык і адчувала, што сёньняшнія вячоркі ў садку зблізілі нас мацней, чым усе ранейшыя размовы пра беларускасьць і любоў да роднай мовы... Будзьма дома размаўляць па-беларуску.

**А. АЛАВА, г. Шчучын.**

# Корты і рынак

З шостага па дзесятае траўня ў Горадні праходзіў традыцыйны міжнародны турнір сярод аматараў вялікага тэніса. У гэтым годзе ён быў прысьвечаны Дню Перамогі. Падобных турніраў у краінах СНД за год адбываецца каля дваццаці. Аднак у нашага, Гарадзенскага, ёсьць адна асаблівасьць, аб якой заўсёды любяць казаць госьці — корты. Упэўнены, што шмат хто ў нашым горадзе і, найперш, нашыя ўлады ня ведаюць ці папросту не ўяўляюць, што ужо з 1986 г. у Горадні існуюць адны з лепшых на тэрыторыі былога Саюза тэнісных пакрыцьці аўстралійскай фірмы «Суперграс». А турнір і дагэтуль пакуль толькі адзіны, і толькі аматарскі.

Такое ўражаньне, быццам няма ў нашым горадзе аніякага спорткамітэту, быццам ня ведаюць у сталіцы, дзе маглі б рыхтавацца беларускія тэнісісты, якія адстойваюць гонар нашай краіны, быццам наша гістарычная Горадня знаходзіцца на краю сьвету, куды і дабрацца немагчыма.

Дарэчы, каторы год запар зьдзіўляюся гэтаму не толькі я, а большасьцю тыя, хто прыяжджае часам да нас, ведае толк у тэнісе і трапляе на нашыя корты. На жаль, ня першы раз даводзіцца так смутна пачынаць, калі пішаш аб тэнісе. Вельмі шкада, але ў Беларусі, напэўна, ня хочуць спрыяць разьвіцьцю гэтага папулярнага ва ўсім сьвеце віда спорту.

І ўсё ж, аб турніры ў Горадні. Трэці год запар яго ладзіць тутэйшы клуб аматараў тэніса. Дагэтуль ён быў гарадзкім, праўда, нешта зьмяняецца і, напэўна, клуб стане унівэрсітэцкім, паколькі корты зараз належаць менавіта гэтай установе.

Адна з асноўных праблем у правядзеньні такога турніра — фінансавая. Прыемна, што спрыяльна паставілася да тэнісістаў унівэрсітэцкая адміністрацыя і прадаставіла корты. Была задумка ў арганізатараў заахвоціць спонсараў, аднак у вабласной газэце неяк не знайшлося месца для трыццаці радкоў аб такой інфармацыі. З добрым сэрцам аказалася толькі малое прадпрыемства «Партнёр», якое паставіла побач з кортамі свой невялічкі шапік з рознымі напоямі, гарачымі бутэрбродамі і кавай.

Госьці гэтым разам прыехалі з Расеі, Летувы, Польшчы. Ад Беларусі, акрамя гарадзенцаў, удзел бралі менскія і пінскія тэнісісты. Усяго было заяўлена 68 удзельнікаў, з якіх толькі восем жанчын. У мужчынскім разрадзе, як і звычайна, тры узроставыя групы: першая да 35 гадоў, другая — ад 35 да 45 і трэцяя — 45 і болей.



Кожны ўдзельнік перад пачаткам гульняў павінен быў унесьці тысячу рублёў у прызавы фонд. Грашовыя прэміі атрымлівалі толькі за тры першыя месцы.

Прыемна было бачыць, што за мінулы год значна ўзрос узровень аматарскага тэнісу. І найперш гэта датычыць гарадзенцаў. Нездарма ў двух фіналах удзельнічалі нашы хлопцы. Праўда, прыгожую гульню паказалі практычна ўсе ўдзельнікі.

У першай мужчынскай падгрупе (да 35 гадоў), дарэчы, самай шматлікай, гарадзенец С. Мішчанка сустракуўся з А. Маладцовым з Пецярбурга і ў прыгожай гульні, на жаль, прайграў. 3:6; 6:2; 6:1.

Цікавым быў фінал у другой падгрупе (35—44 г.), дзе сустракаліся Ю. Някрасаў з Северадзьвінска і Л. Бліноў з Пецярбурга. 7:5, 6:3 скончыўся фінал на карысьць Ю. Някрасава. Не саступала па сваёй цікавасьці і фінальная гульня самых старэйшых тэнісістаў. У. Вайтовіча з Менску перайграў добра вядомы ў Горадні тэнісіст Дз. Сахарчук (6:4, 2:6, 4:6).

У жаночым разрадзе ніякіх нечаканасьцей не адбылося, перамагла Т. Зелянкевіч з Менску. Праўда, даволі моцную барацьбу ў фінале ёй навязала гарадзенка А. Ханавец. У мужчынскім парным разрадзе прызавое месца засталося за гарадзенцамі С. Мішчанка і К. Саўкіным.

На такіх спаборніцтвах цікава назіраць ня толькі за тэнісам, а яшчэ і за людзьмі. І прыемна бачыць, калі ўсьміхаюцца адзін аднаму расеец і летувіс, заўзята па-сяброўску гутараць беларус і паляк. Дарэчы, не існуе ніякіх моўных бар 'ераў і тым болей якіх-небудзь прэтэнзій. За чатыры дні людзі добра адпачылі і з добрым настроем ад 'ехалі дахаты.

Адзін госьць са сталічнага горада зацікавіўся, чаму Горадню ў іх ведаюць толькі па рынку. Я завёў яго і паказаў гэта «дзіва». Аднак ён ня вельмі ўразіўся і смутна дадаў, што лепш бы ваш горад меў славу з-за кортаў...

**М. КАРНЕВІЧ.**

● *Румынія*

# Цыганы, турэцкія дываны й расейскі рэкет

У гандлёвым турызме беларускім спэкулянтам бадай няма роўных. Апошнім часам яны акупавалі торжышчы Румыніі. Што вабіць іх туды? Гандлярка з Пінска Ніна В. распавяла карэспандэнту «Пагоні» так:

— Па-першае, торжышчы Польшчы завалены беларускімі, турэцкімі, кітайскімі таварамі. Добра зарабіць тут ужо немагчыма. Ехаць у больш далёкія краіны, такія, як Турцыя, Кітай, каштоўна, а ў Румыніі ўсё значна таньней і прасьцей.

**— Скажыце, што з нашых тавараў мае добры попыт у румынаў?**

— Найбольш румынскія грамадзяне пытаюць дзіцячыя рэчы, дарослую верхнюю вопратку, запалкі, пасьцельную бялізну, наш беларускі абутак і шмат чаго яшчэ. Адметную групу пакупнікоў стваракоць цыганы, яны скупаюць ношаныя рэчы, гарэлку, харчы. Просяць прадаць ім нашу радыётэхніку. У мяне яны ахвотна купілі стары радыёпрыёмнік «Акіян», якому ўжо было больш за 20 год. Увогуле цыганы — вельмі дзіўныя пакупнікі: яны не купляюць новыя рэчы, а бяруць усё ношанае.

**— А як суадносяцца кошты на тавар у Румыніі і ў нас!**

— Ну, размаўляць пра гэта складана, бо я й мае калегі па вандроўцы везьлі да Румыніі пераважна ношаныя рэчы: сукенкі, летнікі, плашчы, курткі, і там прадавалі іх па 100—200 леяў, дзіцячая вопратка йшла па 20—40 леяў, а вось новае, за выключэньнем запалак і гарэлкі, ішло з цяжкасьцю.

**— Чаму!**

— Румыны вельмі бедна жывуць, мала зарабляюць, крызіс вытворчасьці адмоўна адбіваецца на іх дабрабыце. Уявіце сабе такі вялікі горад, як Бухарэст, а пасьля васьмі вечара выходзіць на вуліцу страшна, бо ўвесь горад схаваны ў цемры, амаль нідзе не гараць вулічныя ліхтары, няма сьветавой рэклямы, дый вокны дамоў сьвецяцца цьмянымі агеньчыкамі. Каб з 'эканоміць, румынскія сем 'і вячэраюць пры сьвечках, глядзяць тэлевізар таксама пры сьвечках.

**— Вы сказалі пра попыт на запалкі й гарэлку!**

— О... запалкі ў Румыніі ў цане, наш блёк запалак з 10 карабкоў можна прадаць у 100 разоў даражэй, гарэлку бяруць пераважна цыганы й рэкэціры.

**— Што, і ў Румыніі ёсьць рэкет!**

— Ды яшчэ які! Праўда, у Бухарэсьце ён значна меншы, а за перавалам, калі ехаць у бок Балгарыі, казалі, што нельга адбіцца. Асабліва шчыруюць расейцы.

**— Дзе вы начавалі ў Бухарэсьце!**

— У выпадковых людзей. Яны прыходзяць на торжышча й за 8—10 лей прапануюць начлег. Калі шкада грошай, можна разьлічыцца таварам. Я завезла ў Румынію некалькі бройлерных курэй, імі й разьлічвалася з гаспадыняй.

**— Скажыце, колькі тавару можна купіць за праданыя там рэчы!**

— Калі ў гандляра хапае тавару на некалькі дзён працы, то гэта значыць, што ён зарobіць некалькі тысячаў леяў. А гэта вельмі шмат, бо турэцкі дыван памерам 2 на 3 мэтры каштуе некалькі соцень.

**— Што лепей везьці з Румыніі да нас!**

— Пераважна ўсе набываюць турэцкія дываны, у мяне вось хапіла на чатыры такія вырабы. У нас у Пінску ён каштуе 50 тысячаў рублёў.

**— А як прасьцей трапіць да Румыніі — шляхам запрашэньня ці пры дапамозе турбюро?**

— Лепей пры дапамозе турбюро, бо цябе паўсюдна возяць, клапоцяцца і г. д.

**— Колькі каштуе такое задавальненьне!**

—Я купляла пуцёўку на 5 дзён коштам 12 тысяч рублёў, у дадатак за страхоўку плаціла 12 даляраў, ды яшчэ пры сабе неабходна мець ня менш 5 тысячаў украінскіх талёнаў, каб заплаціць транзітныя падаткі на ўкраінска-румынскай мытні. Але, калі вылічыўшы ўсе гэтыя выплаты, прыходзіш да высновы, што да Румыніі зараз ехаць значна лепей, чым у суседнюю Польшчу.

**Распытваў Г. АСТРОЎСКІ.**

## Мусульмане аб 'ядналіся

9 траўня ў вёсцы Сандыкоўшчызна Шчучынскага раёна адбыўся ўстаноўчы зьезд Мухтасібата Беларусі. Згодна статуту Духоўнага ўпраўленьня мусульман сем існуючых на Беларусі суполак ісламскага веравызнаньня аб 'ядналіся ў адну рэлігійную арганізацыю, падначаленую мухтыю Талгату Таджудзіну, які знаходзіцца ў Уфе.

Галоўнымі задачамі беларускага Мухтасібата будзе назіраньне й дапамога аб 'яднаньням і прыходам мусульман на тэрыторыі рэспублікі.

Дарэчы, прама на зьездзе былі распаўсюджаны разьліковыя карткі малазабясьпечаных мусульманскіх сем 'яў, дасланыя шэйхам Фарыц Бэн Ясін Курайшы. Згодна ім кожны інвалід-мусульманін ці мусульманка, а таксама маці-адзіночка будуць атрымліваць штогод 100 даляраў ЗША.

**Г. А.**

